# Голас Радзімы

№ 15 (2053)
14 красавіка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Багатая і разнастайная творчая палітра народнага мастака рэспублікі, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Уладзіміра СТАЛЬМАШОНКА. Многія яго палотны прысвечаны дзяржаўным і грамадскім дзеячам Беларусі. Ён плённа працуе і ў галіне манументальнага мастацтва. Але сённяшняя гутарка з мастаком, якую вы можаце прачытаць на 6—7-й старонках газеты, менш за ўсё датычыцца яго творчасці. У. Стальмашонак — старшыня Саюза мастакоў Беларусі. Вось аб праблемах гэтай творчай арганізацыі і разважае яе кіраўнік.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

# СУСТРЭЧА М. С. ГАРБАЧОВА З НАДЖЫБУЛОЙ

7 красавіка ў сталіцы Савецкага Узбекістана адбылася сустрэча паміж Генеральным сакратаром ЦК КПСС М. С. Гарбачовым і Прэзідэнтам Рэспублікі Афганістан, Генеральным сакратаром ЦК НДПА Наджыбулой. Яна адкрыла новы этап у савецка-афганскіх адносінах.

У выніку сустрэчы М. С. Гарбачоў і Наджыбула прыйшлі да адзінай думкі адносна наступнага.

Першае. Савецкі Саюз і Рэспубліка Афганістан будуць дзейнічаць у адпаведнасці з заявамі, апублікаванымі 8 лютага 1988 года. Гэтыя заявы надалі новы імпульс працэсу палітычнага ўрэгулявання надзвычай складанага рэгіянальнага канфлікту і дазволілі вывесці перагаворы ў плоскасць практычнага вырашэння.

Другое. Генеральны сакратар ЦК КПСС і Прэзідэнт РА лічаць, што ў выніку канструктыўнага ўзаемадзеяння ўсіх, хто меў дачыненне да ўрэгулявання, цяпер зняты апошнія перашкоды да заключэння пагадненняў, і выступаюць за неадкладнае іх падпісанне.

Пры гэтым абодва бакі належным чынам ацэньваюць ролю генеральнага сакратара ААН і яго асабістага прадстаўніка Д. Кардавеса.

Прэзідэнт РА вітае гатоўнасць СССР і ЗША быць гарантамі дасягнутых у Жэневе пагадненняў.

Трэцяе. Савецкі Саюз і Афганістан пацвярджаюць, што ў выпадку падпісання ў найкарацейшы тэрмін названых пагадненняў застанецца ў сіле дасягнутая паміж Афганістанам і Савецкім Саюзам дагаворанасць аб тым, што савецкія войскі будуць выведзены ва ўстаноўлены гэтымі пагадненнямі перыяд, пачынаючы з 15 мая 1988 года.

Чацвёртае. Палітыка нацыянальнага прымірэння дазваляе ўрэгуляваць сітуацыю вакол Афганістана, спыніць вайну і братазабойства, устанавіць мір на ўсёй тэрыторыі краіны, сфарміраваць кааліцыйны ўрад з удзелам усіх сіл, што прадстаўляюць афганскае грамадства, уключаючы тыя, якія цяпер процістаяць адзін аднаму.

Пятае. Канчатковы статус сваёй краіны сярод іншых дзяржаў вызначаць самі афганцы і ніхто іншы. Савецкі Саюз пацвярджае сваю падтрымку заяве Прэзідэнта Наджыбулы аб Афганістане як незалежнай, недалучанай, нейтральнай дзяржаве. Пры гэтым ён зыходзіць з таго, што тэрыторыя гэтай краіны або якая-небудзь яе частка ніколі не будуць выкарыстоўвацца ў мэтах, варожых яе суседзям, у адносінах да якіх Афганістан прадоўжыць палітыку добрасуседства і супрацоўніцтва. Гэта ў роўнай меры адносіцца да Савецкага Саюза, Кітайскай Народнай Рэспублікі, Рэспублікі Індыя, Ісламскай Рэспублікі Пакістан, Ісламскай Рэспублікі Іран. Савецкі бок падтрымлівае заяву Прэзідэнта Афганістана аб тым, што ўнутраны лад Афганістана будзе грунтавацца на шматпартыйнасці ў палітычнай сферы і шматукладнасці — у эканамічнай.

Шостае. Важнае значэнне для ажыццяўлення палітыкі нацыянальнага прымірэння мае стварэнне здавальняючых умоў для вяртання афганскіх бежанцаў, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі Пакістана і іншых краін, прадастаўлення ім тых жа правоў, што і ўсім грамадзянам краіны. Савецкі Саюз акажа ўраду Афганістана дапамогу ў стварэнні такіх умоў.

Сёмае. Савецкі Саюз, апіраючыся на адносіны традыцыйнай і гістарычнай дружбы, выказвае гатоўнасць на высокім узроўні супрацоўнічаць з Афганістанам у тым, каб аднавіць эканоміку і садзейнічаць эканамічнаму і сацыяльнаму развіццю Рэспублікі Афганістан.

Восьмае. Генеральны сакратар і Прэзідэнт заклікаюць іншыя дзяржавы садзейнічаць устанаўленню міру і нацыянальнага прымірэння ў Афганістане, паважаць Жэнеўскія пагадненні. Гэта паслужыла б добрым і абнадзейваючым прыкладам для вырашэння іншых рэгіянальных канфліктаў.

КАРЫСНАЕ ЗНАЁМСТВА



**Да беларускіх дзяцей прыязджалі госці з штатаў Нью-Йорк і Агаё ЗША. Іх запрасілі члены гуртка перакладчыкаў з Мінскага Палаца піянераў і школьнікаў. Гаспадары паказалі амерыканскім школьнікам свой горад, расказалі, як яны вучацца і адпачываюць.**

**НА ЗДЫМКУ: амерыканскія школьнікі ў Беларусі.**

ВІЗІТЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З КОСТА-РЫКІ

Беларусь наведала дэлегацыя Заканадаўчай асамблеі Рэспублікі Коста-Рыка на чале з намеснікам яе старшыні Хасэ Луісам Валенсіяна Чавесам, якая знаходзілася ў Савецкім Саюзе з афіцыйным візітам па запрашэнню Вярхоўнага Савета СССР. У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР адбылася сустрэча членаў Камісіі па замежных справах Вярхоўнага Савета рэспублікі з коста-рыканскімі парламентарыямі.

У сваім выступленні кіраўнік дэлегацыі падкрэсліў важнае значэнне савецкіх знешнепалітычных ініцыятыў і мірных прапаноў для прадухілення ядзернай катастрофы. Рашуча выступаючы за дасягненне палітычнага ўрэгулявання і ўмацавання бяспекі ў Цэнтральнай Амерыцы, адзначыў Хасэ Луіс Валенсіяна Чавес, урад, прадстаўнікі ўсіх палітычных партый, народ Коста-Рыкі поўнасцю падтрымліваюць прапанаваную СССР праграму знішчэння ядзернай зброі да 2000 года. Ён выказаў словы падзякі савецкаму народу за салідарнасць, шырокую падтрымку дзеянняў групы Кантадоры, саміх цэнтральнаамерыканскіх дзяржаў, і перш за ўсё Коста-Рыкі, па дасягненню мірнага ўзаемапрымальнага вырашэння існуючых у гэтым рэгіёне праблем сіламі саміх лацінаамерыканцаў, без умяшання звонку, на падставе гватэмальскага дагавора.

Госці з Коста-Рыкі наведалі саўгас-камбінат «Мір» Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Яны агледзелі гаспадарку, азнаёміліся з умовамі працы, быту і адпачынку калгаснікаў, гута з кіраўнікамі і спецыялістамі.

У праграму знаходжання дэлегацыі была ўключана паездка на мемарыяльны комплекс «Хатынь».

СХОДЫ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СВЯТА ВЕНГРЫІ

4 красавіка 1945 года, калі Савецкая Армія, выконваючы гістарычную вызваленчую місію, поўнасцю выгнала з венгерскай зямлі фашысцкіх захопнікаў, пачалася эпоха развіцця гэтай краіны па шляху дэмакратыі і сацыялізму. Гэта адзначалася на ўрачыстым сходзе прадстаўнікоў працоўных Мінска, які быў прысвечаны нацыянальнаму святу ВНР — 43-й гадавіне вызвалення Венгрыі ад фашызму.

Дакладчык — намеснік старшыні праўлення беларускага аддзялення Таварыства савецка-венгерскай дружбы, дырэктар выдавецтва «Беларусь» А. Самаль падкрэсліў, што адносіны дзвюх дзяржаў і народаў характарызуюцца цяпер шырокім супрацоўніцтвам ва ўсіх сферах жыцця.

Студэнтка Беларускага політэхнічнага інстытута І. Добаш, якая выступіла са словам у адказ, адзначыла, што ў памяці яе народа ніколі не згасне ўдзячнасць савецкім воінам.

ЭЛЕКТРОННЫ ПАМОЧНІК

## ЗРУЧНА ДЛЯ ПАСАЖЫРАЎ

Білет на поезд, складзены і надрукаваны камп'ютэрам, можна атрымаць у чыгуначнай касе папярэдняга продажу білетаў у Мінску. Тут пачала дзейнічаць новая электронная сістэма «Экспрэс-2».

15 заказаў у секунду — з такой скорасцю здольна яна браніраваць месцы ў пасажырскіх паяздах.

Уся інфармацыя выводзіцца аўтаматыкай на экран дысплея. За секунду друкуецца білет. Прадугледжана магчымасць афармляць на адным бланку да 12 месцаў (калі ў падарожжа адпраўляецца сям'я або турысцкая група). За 45 дзён да ад'езду сістэма прыме заказ, падрыхтуе білеты, вызначыць, як больш аптымальна даставіць іх дадому. А пры адмове ад паездкі прыме выдадзены раней білет, зверыць, ці яе гэта работа, і дазволіць вярнуць грошы.

На першым часе «Экспрэс-2» будзе займацца толькі папярэднім продажам білетаў. А да сезона летніх водпускаў да сістэмы падключацца і сутачныя касы вакзала.

У далейшым усе білетныя касы магістралі будуць выкарыстоўваць вылічальную тэхніку, прычым жыхары рэспублікі змогуць заказаць білеты на паязды, якія адпраўляюцца з іншых гарадоў краіны. «Экспрэс-2» будзе звязаны з усімі 10 800 чыгуначнымі станцыямі Савецкага Саюза.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## ЯК ПАЕХАЦЬ У ГОСЦІ ДА СВАЯКОЎ

**Гэтае пытанне не раз узнікала ў большасці нашых чытачоў, і яны добра ведаюць, што яшчэ зусім нядаўна для таго, каб аформіць дакументы на паездку па прыватных справах, неабходна было патраціць нямала часу і сіл. З 1-га студзеня 1987 года ўступіла ў сілу Пастанова Савета Міністраў СССР «Аб унясенні дапаўненняў у Палажэнне аб уездзе ў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і аб выездзе з Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». На пытанні, што тычацца змяненняў у правілах афармлення дакументаў для паездак савецкіх грамадзян за мяжу і для замежных грамадзян — у СССР, адказвае намеснік начальніка Аддзела віз і рэгістрацый Упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома (АВІР) Уладзімір МАТУСЕВІЧ.**

— РАНЕЙ ДЛЯ ВЫЕЗДУ ДА СВАЯКОЎ НЕАБХОДНА БЫЛО САБРАЦЬ ЗНАЧНУЮ КОЛЬКАСЦЬ ДАКУМЕНТАЎ — РОЗНЫЯ ДАВЕДКІ, ХАРАКТАРЫСТЫКІ І Г. Д. ЯКОЕ СТАНОВІШЧА ЦЯПЕР?

— Адразу дапоўню, што размова ідзе не толькі пра паездкі да сваякоў, але і да сяброў і знаёмых у іншыя краіны. Для атрымання дакументаў на такую паездку неабходна запоўніць невялікую анкету, прыклаўшы да яе запрашэнне. Анкета была і раней, але тады трэба было адказаць амаль на 30 пытанняў, некаторыя з адказаў заверыць на рабоце ці па месцу жыхарства. Цяпер у анкетах толькі 5—7 пытанняў, у залежнасці ад краіны. Больш ніякіх дакументаў не патрабуецца.

— ЦІ ЗНАЧЫЦЬ ГЭТА, ШТО ЧАЛАВЕК МОЖА З'ЕЗДЗІЦЬ ЗА МЯЖУ І ПРА ГЭТА НАВАТ НЕ БУДЗЕ ВЯДОМА АДМІНІСТРАЦЫІ ПА МЕСЦУ РАБОТЫ?

— Магчыма. Грамадзянін СССР мае права праводзіць свой водпуск так, як яму захочацца. І калі ён вырашыць паехаць у госці ў іншую краіну, гэта яго асабістая справа.

— А ЦІ ЗАСТАЛІСЯ ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ АБМЕЖАВАННІ НА ВЫЕЗД?

— Так. Як і ва ўсіх іншых дзяржавах, такія абмежаванні ёсць. Напрыклад, выезд па прыватных справах грамадзяніну СССР не дазваляецца, калі ён знаёмы з дзяржаўнымі сакрэтамі ці мае іншыя прычыны, якія закранаюць бяспеку дзяржавы, — да спынення дзеяння акалічнасцей, якія перашкаджаюць выезду. Ёсць і іншыя выпадкі. Усе яны пералічаны ў пастанове.

— ЯКІЯ АДБЫЛІСЯ ЗМЯНЕННІ АДНОСНА ЎЕЗДУ Ў НАШУ КРАІНУ І ЗНАХОДЖАННЯ Ў ЁЙ?

— Іх таксама шмат. Напрыклад, цяпер вельмі хутка развіваецца міжнароднае супрацоўніцтва. Прадстаўнікам замежных фірм, якія працуюць у нашай краіне, выдаюцца многаразовыя візы, гэта значыць, ім не трэба кожны раз звяртацца за дазволам на паездку дамоў і вяртанне і гэтак далей. Што тычыць прыездаў да сваякоў, то і тут ёсць змяненні. Грамадзяне атрымліваюць запрашэнне альбо асабіста афармляюць дакументы ў савецкіх консульствах у сваіх краінах. Такія паездкі магчымы некалькі разоў у год.

— МНОГІЯ НАШЫ СУАЙЧЫННІКІ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА МЯЖОЙ, З'ЯЎЛЯЮЦЦА ГРАМАДЗЯНАМІ СССР. ШТО ВЫ МОЖАЦЕ СКАЗАЦЬ АБ ГЭТАЙ КАТЭГОРЫІ АСОБ?

— Яны маюць права свабодна перамяшчацца па тэрыторыі краіны, акрамя тых месцаў, на ўезд у якія ўсім грамадзянам СССР неабходна атрымаць спецыяльны дазвол. Калі асобы такой катэгорыі прыбываюць на тэрмін да 45 сутак, то ім нават не трэба прапісвацца. Дарэчы, хачу сказаць, што цяпер даволі многа шлюбаў савецкіх грамадзян з іншаземцамі. Часта члены такіх сямей жывуць асобна, кожны ў сваёй краіне. І грамадзяне СССР, у якіх муж, жонка альбо іншыя блізкія сваякі жывуць за мяжой, маюць права свабодна ехаць туды. Цяпер выязныя дакументы сапраўдныя на 6 месяцаў, і на працягу гэтага часу колькасць паездак не абмяжоўваецца, гэта значыць, можна ездзіць па адных дакументах некалькі разоў. Савецкія грамадзяне, якія жывуць за мяжой, таксама маюць права ў любы час вярнуцца ў сваю краіну.

— ЯКІЯ ТЭРМІНЫ АФАРМЛЕННЯ ДАКУМЕНТАЎ ДЛЯ ВЫЕЗДУ ЗА МЯЖУ І ЎЕЗД У СССР?

— Хадайніцтва аб уездзе ў СССР і выездзе ў госці альбо на пастаяннае пражыванне разглядаецца на працягу аднаго месяца, і толькі пры неабходнасці дадатковага вывучэння тэрмін можа быць прадоўжаны, але не больш як на 6 месяцаў. Дарэчы сказаць, у адрозненне ад існаваўшых раней правіл, калі вызначаўся час выезду і пункт, праз які трэба было выязджаць, зараз на працягу 6 месяцаў грамадзянін сам плануе сваю паездку і маршрут.

— МУСІЦЬ, У ВАС ЦЯПЕР ЗНАЧНА ПРЫБАВІЛАСЯ РАБОТЫ?

— Так. За тры месяцы бягучага года намі аформлена амаль столькі ж выязных спраў, колькі за ўвесь 1987-мы. Колькасць савецкіх грамадзян, якія выязджаюць па прыватных справах за мяжу, і замежных грамадзян, якія прыязджаюць сюды, пастаянна расце.

*КАМЕНТАРЫЙ ДА ПАДЗЕІ*

# ЗАКРЫЛІ ФАБРЫКУ...

Трэба адразу сказаць, што выпадак з Мінскай тытунёвай фабрыкай, а дакладней, ліквідацыя прадпрыемства — падзея для нас неардынарная. Дагэтуль часцей прыходзілася чуць пра рэканструкцыі, мадэрнізацыі, расшырэнні розных вытворчых плошчаў і да т. п. Карацей, мы карысталіся паняццямі і катэгорыямі больш характэрнымі для экстэнсіўнага спосабу гаспадарання. Час жа і абставіны вымагаюць сёння новага мыслення і ад вялікіх палітыкаў і кіраўнікоў, і ад тых асоб, чыя дзейнасць праяўляецца ў меншым маштабе, але ад гэтага не перастае быць вызначальнай для лёсаў многіх канкрэтных людзей. Зараз гаспадарнікі, эканамісты сталі больш уважліва аналізаваць эфектыўнасць, нават мэтазгоднасць існавання як цэлых вытворчых падраздзяленняў, так і асобных рабочых месцаў.

Такім чынам было вырашана: тытунёвая фабрыка ў Мінску, якая існавала не адно дзесяцігоддзе, сёння не патрэбна. Чаму?

Прычын, і кожная з іх ужо сама па сабе важная, было некалькі. Першая ў тым, што, пачынаючы з 1986 года, у рэспубліцы значна скараціўся попыт на тытунёвыя вырабы. У выніку летась гандаль паменшыў свой заказ тытунёвым прадпрыемствам на 7,9 мільёна рублёў. Адпаведна скараціўся і план, які даводзіў Дзяржаграпром СССР. Лішняй стала частка вытворчых магутнасцей. І тут справа набывае дзве процілеглыя іпастасі. З аднаго боку, прадпрыемства закрыта, што асаблівай радасці не можа выклікаць ні ў рабочых, ні ў служачых, ні ў інжынераў, якія там працавалі. Па-другое ж, такая падзея сведчыць: людзі сталі менш курыць і гэта абнадзейвае грамадства, што з векавым злом — тытунём можна змагацца і не беспаспяхова. Кампанія па барацьбе з курэннем сёння шырыцца ў многіх краінах свету. Яна з акцыі спачатку толькі грамадскай перарастае ўсё больш у афіцыйную, якую падтрымліваюць урады. Не абышоў такі працэс і Савецкі Саюз.

Другі штуршок, што вызначыў лёс фабрыкі, быў, як кажуць, мясцовага значэння. Але і тут глыбінная сутнасць перамены — ахова здароўя людзей. Старая фабрыка — старое абсталяванне, якое даўно патрабавала замены. Але гэта не рабілася свядома. Калі Мінская тытунёвая фабрыка будавалася, то месца, якое яна займала, лічылася амаль ускраінным, не надта мнагалюдным. Але літаральна за апошнія 15—20 год тая частка горада непазнавальна змянілася. Пераканалася ў гэтым з уласнага вопыту: калісьці сама наведвала дзіцячы сад, што належаў фабрыцы, ды і жыла наша сям'я зусім побач з ёю. Сёння тут сапраўдны цэнтр сталіцы, дзе заканчваецца карэнная перапланіроўка тэрыторыі, пабудаваны новыя жылыя масівы. І з усёй вастрынёй паўстала пытанне захавання чысціні паветра ў горадзе. Тытунёвая ж фабрыка належала да тых прадпрыемстваў, якія нельга назваць экалагічна бясшкоднымі. Таму і выйшла Пастанова Савета Міністраў рэспублікі, якая забараняла ўсялякае будаўніцтва ці мадэрнізацыю фабрыкі і прадугледжвала вынесці яе за межы Мінска.

Мінскую тытунёвую фабрыку закрылі. Рэспубліканскі Дзяржаграпром выкарыстаў яе плошчы для ўласнай невялікай друкарні, а рэшткі сыравіны, найбольш каштоўнае з абсталявання былі перададзены ў Гродна (мінская фабрыка лічылася філіялам Гродзенскага тытунёвага аб'яднання). Так, машыны, інструменты можна перавезці ў Гродна. Але ж людзей — 230 чалавек — туды не адправіш. Дзвесце трыццаць чалавек, мужчын і жанчын, старых і маладых, вопытных і навічкоў, былі пастаўлены не па сваёй волі перад неабходнасцю шукаць новае месца работы.

Тыя з суайчыннікаў, хто ўважліва сочыць за падзеямі і пераменамі ў жыцці Савецкай краіны, павінны ведаць, што зараз у нас распачата вялікая і вельмі складаная работа па прывядзенню ўсіх рабочых месцаў на вытворчасцях, ва ўсіх установах да аптымальнай для павышэння эфектыўнаці працы колькасці. На сённяшні дзень сітуацыя склалася так, што вялікая краіна з немалымі людскімі рэсурсамі стала зведваць дэфіцыт рабочых рук. У той жа час былі цэлыя галіны, дзе работнікаў набралася столькі, што ім часам літаральна няма чаго рабіць. Гэта ўсё тычылася і Беларусі. Таму на сітуацыю з работнікамі Мінскай тытунёвай фабрыкі трэба ўжо глядзець як на першы, але не апошні выпадак выслабанення людзей. У гарадской вячэрняй газеце Мінска была нядаўна такая лічба: толькі ў сталіцы рэспублікі пасля скарачэння штатаў згубяць свае ранейшыя месцы працы каля трох з паловай тысяч спецыялістаў і работнікаў кіруючых устаноў.

Рашэнне аб ліквідацыі Мінскай тытунёвай фаб[illegible]і прыняў рэспубліканскі д[illegible]жаграпром. Гэтая магутная арганізацыя ўзяла на сябе і клопат аб далейшым лёсе тых, хто будзе звольнены. Загад быў выдадзены летась 16 [illegible]тапада, а з першага снежня [illegible]закрываўся папяросны цэх, [illegible] 1 студзеня 1988 года — усе астатнія. Адначасова з выхадам загаду на агульным сходзе ўсяго працоўнага калектыву выбралі рабочую камісію, якая непасрэдна занялася падборам новых месцаў працы работнікам фабрыкі. Кожнаму прапанаваўлі на выбар некалькі варыянтаў з улікам ужо набытай спецыяльнасці, ранейшай заработнай платы, нават блізкасці да дому, дзе жыве чалавек. Былі і такія людзі, хто палічыў за лепшае самастойна ўладкавацца. Камісія цесна супрацоўнічала з органамі мясцовай улады — раённымі і гарадскімі, з адміністрацыямі буйных прадпрыемстваў горада. Многія з былых работнікаў фабрыкі зараз працуюць на Мінскім заводзе вылічальнай тэхнікі, дражджавой фабрыцы, скургалантарэйнай... Сорак сем чалавек засталося працаваць у новай друкарні, што стварыў тут Дзяржаграпром, некаторыя пайшлі на пенсію, якая ім ужо была прызначана дагэтуль. Выплачваліся значныя грашовыя дапамогі. Тых работнікаў, якія былі ў фабрычнай чарзе на атрыманне кватэры, перавялі ў чаргу ў раённыя выканкомы.

Такім чынам, праблем не было? Безумоўна, былі. Некаторым работнікам давялося па 2—3 месяцы перавучвацца, ёсць такія, у каго пакуль заработак крыху ніжэйшы, чым раней. У некалькіх выпадках узніклі складанасці з ільготнымі пенсіямі жанчынам... Але усе намаганні скіроўваліся на тое, каб максімальна дапамагчы людзям, аблягчыць няпростую жыццёвую сітуацыю.

Сёння з 230 работнікаў фабрыкі засталіся адзінкі тых, хто пакуль не працуе. Але і яны не пакінуты сам-насам са сваім клопатам. Пра іх памятаюць, ім дапамагаюць. Права на працу гарантуе наша Канстытуцыя.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

***ФОТА З АРХІВА***






**У нашай фотарубрыцы — новыя здымкі. Хаця правільней было б назваць іх вельмі старымі: яны датаваны 1917-м годам і раней. На адным, верхнім, група сялян Брэст-Літоўскага павета. Зроблена фатаграфія на пачатку дваццатага стагоддзя. Здымак, хутчэй за ўсё, не прывязаны ні да якой канкрэтнай падзеі, гэта групавы партрэт. Але і ён нясе немала гістарычнай і сацыяльнай інфармацыі, варта ўгледзецца толькі ў аблічча беларускіх мужыкоў: у іх ношанае-пераношанае адзенне, звярнуць увагу, у што яны абуты. Вельмі хутка іх, як і мільёны іншых, чакаюць вялікія выпрабаванні, якія запатрабуюць ад кожнага чалавека канкрэтнага выбару свайго месца ў рэвалюцыйных падзеях, у жыцці. Момант такога выбару адлюстраваны на ніжнім здымку. Ідзе раззбраенне аднаго з карнілаўскіх падраздзяленняў. Месца падзеі: Беларусь. Час падзеі: жнівень 1917 года. Як вядома з гісторыі, на падаўленне рэвалюцыйнага Петраграда, каб не дапусціць самой сацыялістычнай рэвалюцыі, да горада рухалася войска генерала Карнілава. Але гэта вельмі сур'ёзная спроба контррэвалюцыйнага мяцяжу была спынена. Карнілаўскія салдаты здаліся. Раззбраенне тых з іх, што на фотаздымку, ішло з дапамогай зводнага атрада Чырвонай гвардыі, які налічваў каля 800 чалавек і быў сфарміраваны Мінскім камітэтам бальшавікоў. Такія звесткі дае нам архіў.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# АХОЎВАЕМ СТАРАСЦЬ

Усё больш далёкімі робяцца ад нас гады Вялікай Айчыннай. Разам з імі назаўсёды адыходзяць многія яе ўдзельнікі, салдаты-пераможцы. Шанаваць іх памяць — наш святы абавязак. Але не меншы абавязак сучаснікаў клапаціцца аб жывых — ветэранах Вялікай Айчыннай. Гэтыя людзі побач, але як часта яны абцяжараны ўжо і ўзростам, і хваробамі: рана ці позна, а пачынаюць трывожыць старыя раны.

У аддзелах сацыяльнага забеспячэння ўсіх раённых выканкомаў і прафсаюзных камітэтах рэспублікі, у тым ліку і ў Гродзенскай вобласці, пра якую я хачу расказаць, вельмі ўважліва ставяцца да задавальнення патрэб інвалідаў мінулай вайны, да паляпшэння іх матэрыяльна-бытавых умоў.

У Дзятлаўскім раёне ва ўсіх калгасах і саўгасах удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны ўстаноўлены значныя даплаты да пенсій. Яны робяцца за кошт уласных сродкаў гаспадарак. Практыкуецца такая дапамога ў некаторых асобных гаспадарках іншых раёнаў Гродзеншчыны.

Клапоціцца грамадства і аб тых старых людзях, хто ўжо не ў сілах даглядаць сябе сам і таму жыве ў адным з дзесяці дамоў-інтэрнатаў вобласці. Будуюцца і новыя такія ўстановы. Летась, напрыклад, быў здадзены ў эксплуатацыю Навагрудскі дом-інтэрнат. У двух пяціпавярховых карпусах жыве больш за трыста ветэранаў вайны і працы. Пакоі — аднамесныя і двухмесныя, абсталяваны добрай сучаснай мэбляй. Усе яны злучаны спецыяльнай селектарнай сувяззю з дзяжурным урачом, які ў любы момант акажа пацыентам неабходную дапамогу. Да паслуг жыхароў кіназала, бібліятэка, набыты розныя музычныя інструменты. Тут створаны неабходныя ўмовы і для пасільнай працы.

Сёлета пачнецца будаўніцтва яшчэ двух дамоў-інтэрнатаў — Мураванскага і Лідскага.

Дзяржава, грамадства не кінуць сам-насам з іх праблемамі і тых старых людзей, якія не жадаюць ехаць з роднага горада, хаця там і няма дзяцей ці сваякоў, хто мог бы паклапаціцца пра іх. Для такіх грамадзян у Гродне пачнецца будаўніцтва 180-кватэрнага дома. Архітэктары прадугледзелі ў ім цэлы комплекс памяшканняў для кіназалы, кафэ, паштовага аддзялення, бібліятэкі.

Зараз у вобласці практыкуюцца самыя розныя формы абслугоўвання непрацаздольных людзей. Так, напрыклад, у чатырох дамах-інтэрнатах адкрыты аддзелы сацыяльнай дапамогі і ўсе пытанні вырашаюцца дома ў пенсіянераў. Для больш чым 600 чалавек прывозяцца дахаты прадукты харчавання, лякарствы. Пакуль такое абслугоўванне існуе толькі ў Гродне. Але праз некаторы час гэта стане магчымым і ў іншых месцах вобласці.

**І. СУХОЦКІ.**

## *БССР: ШЛЯХІ СТАНАЎЛЕННЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ*

# АЛЬТЭРНАТЫВА

Беларусь напярэдадні свайго знамянальнага юбілею. 1 студзеня 1989 года спаўняецца 70 год з дня абвяшчэння рэспублікі — дзецішча Вялікага Кастрычніка. Зразумелы інтарэс шырокай грамадскасці да пройдзенага рэспублікай шляху ў сям'і народаў СССР, да гістарычных умоў пачатковага этапу нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва беларускага народа. Каштоўны здабытак — вопыт гісторыі — дапамагае больш ясна бачыць нашы сучасныя праблемы і перспектыву, правільна ацэньваць дасягнутае ў ходзе грамадскіх пераўтварэнняў.

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка нарадзілася ў абставінах найвастрэйшага проціборства класавых сіл, калі ў ходзе грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі вырашалася пытанне, быць ці не быць Савецкай уладзе.

Працоўнікі сацыялістычнай рэвалюцыі ўпарта прапаноўвалі сваю альтэрнатыву вырашэння «беларускага пытання». Факты і падзеі, аб якіх пойдзе гутарка ніжэй, могуць даць нагляднае ўяўленне аб тым, што канкрэтна проціпастаўлялі яны нацыянальнай праграме Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Усе беларускія арганізацыі, якія не прызнавалі «бальшавіцкай улады», у тым ліку і партыя беларускіх эсэраў, у дасягненні планаў стварэння ў той ці іншай форме беларускай дзяржаўнасці, спадзяваліся на падтрымку звонку. Не было, аднак, сярод іх згоды адносна таго, на якія менавіта знешнепалітычныя сілы абапірацца, каб не апынуцца ў *пройгрышы*. Гэтае пытанне набыло асаблівую вастрыню пасля паражэння Германіі ў імперыялістычнай вайне восенню 1918 года і ў сувязі з буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй, якая там пачалася. Нямецкім войскам давялося пакідаць Беларусь, як і іншыя акупіраваныя імі раёны Савецкай краіны.

Вызначыліся два асноўныя напрамкі. Адны арганізацыі будавалі свае планы ў разліку на тое, што ход сусветных падзей, саперніцтва ў лагеры вялікіх дзяржаў прымусяць Англію, Францыю, ЗША ствараць беларускую дзяржаву заходняга ўзору як звяно ў санітарным кардоне, які адгароджвае буржуазную Еўропу ад Савецкай Расіі. Іншыя, звязаныя перш за ўсё з польскімі памешчыкамі, каталіцкім духавенствам, спадзяваліся на супрацоўніцтва з Польшчай, якая, меркавалі, па прычыне ўнутраных слабасцей і націску сваіх заступнікаў — краін Антанты будзе вымушана пайсці на ўступкі і палічыць за лепшае існаванне ў той ці іншай форме блізкай па класаваму духу беларускай дзяржаўнасці. Немалаважнае значэнне надавалася той акалічнасці, што адроджаная буржуазна-памешчыцкая польская дзяржава была адным з важных звенняў у антысавецкай інтэрвенцыяністцкай палітыцы Антанты, што «беларускае пытанне» так ці інакш было звязана з праблемай фарміравання ўсходніх граніц Польскай дзяржавы, а гэтаму Францыя, Англія, ЗША надавалі асобае значэнне.

Славуты зварот Ю. Пілсудскага «Да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага» аб тым, што Польшча дасць беларусам і літоўцам магчымасць самастойна вырашаць пытанні свайго нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, пасеяла светлыя ілюзіі сярод прыхільнікаў «беларускага адраджэння», хаця ўжо тады, у красавіку 1919 года, паводзіны польскіх атрадаў, іх бясчынствы на захопленай беларускай тэрыторыі сведчылі аб рашучым разыходжанні паміж словам і справай польскіх дзяржаўных дзеячаў.

Упамянутая адозва Ю. Пілсудскага, а тым больш яго заява аб федэрацыі Польшчы, Літвы і Беларусі абуджалі мары аб нацыянальнай дзяржаўнасці, туманілі розум нават тым беларускім інтэлігентам, якія шчыра лічылі, што праблемы нацыянальнага быцця можна будзе вырашыць, абапіраючыся на саюз з Польшчай. Да таго ж меркаванні аб магчымасці перамогі белагвардзейскіх генералаў у грамадзянскай вайне, якія не толькі Беларусі, але і Польшчы адмаўлялі ў праве на самавызначэнне, падмацоўвалі аргументы на карысць выбранага шляху.

Абедзве плыні не падзялялі нейкія прынцыповыя ідэі. У любы час на павароце падзей магла адбыцца змена арыенціраў, аб'яднанне намаганняў у адным якім-небудзь напрамку. Кожная з партый і арганізацый, прапануючы сваю праграму вырашэння «беларускага пытання», на першым плане ставіла задачу стварэння беларускай дзяржавы. З гэтым патрабаваннем яны апелявалі да насельніцтва Беларусі, да імперыялістычных дзяржаў, да правіцеляў буржуазна-памешчыцкай Польшчы, да «асветнай грамадскай думкі». Што тычыцца сацыяльна-эканамічных класавых асноў такой дзяржаўнасці, то тут якіх-небудзь сур'ёзных разыходжанняў паміж рознымі партыямі і арганізацыямі не было. Іх лідэры гатовы былі ісці на кампрамісы, лёгка знаходзілі агульную мову. Абаронцы «нацыянальнай свабоды», «нацыянальнага адраджэння» на справе адстойвалі адхіленыя сацыялістычнай рэвалюцыяй парадкі.

Такім чынам, калі адна частка беларускіх арганізацый, арыентуючыся непасрэдна на краіны Антанты, пераможцаў Германіі ў імперыялістычнай вайне, канфліктавала з Польшчай, даказваючы з фактамі ў руках у Парыжы і Лондане згубнасць палітыкі Польшчы ў Беларусі, другая выдавала агрэсара за сябра беларускага народа. «Сустракайце, беларусы, новых гасцей свайго краю з поўным спакоем і ўпэўненасцю ў сабе,— заклікала Цэнтральная беларуская рада Гродзеншчыны ў красавіку 1919 года. — Дзяржава польская ваюе з Маскоўшчынай, якая ніколі не была добразычлівай да нас. Больш таго, яна дзікім цёмным насіллем душыла і душыць да сёння наша нацыянальнае жыццё, трымае ў турмах лепшых сыноў зямлі нашай: забараняе ўсякую палітычную і культурную работу». Прапаноўваючы свае паслугі Ю. Пілсудскаму, віленская Беларуская рада выказвала надзею, што «вызваленчая місія» Польшчы «дапаможа беларускаму адраджэнню».

У верасні 1919 года ў акупіраваным Мінску Ю. Пілсудскаму была арганізавана ўрачыстая сустрэча, у якой самы актыўны ўдзел прымалі і прадстаўнікі шэрагу беларускіх нацыяналістычных арганізацый. Прамоўцы дзякавалі вярхоўнаму правадыру польскіх войск за «вольнае і спакойнае жыццё». Беларускі нацыянальны камітэт «ад імя беларускага народа» выказаў Ю. Пілсудскаму гарачую падзяку за вызваленне Мінска і Міншчыны ад «маскоўскага імперыялізму», заклікаў Польшчу рушыць свае арміі далей на Усход, каб захапіць Віцебск, Магілёў, Смаленск.

Нацыяналістычная прэса Ю. Пілсудскага абвяшчала вялікім дзяржаўным дзеячам, адным з «прарокаў незалежнасці Беларусі», які «вызваліць беларускі народ з нацыянальнай няволі, аб'яднае ўсе беларускія землі ў адну дзяржаўную адзінку і дапаможа беларускаму народу ў справе стварэння незалежнай і непадзельнай Беларусі ў федэратыўнай сувязі ўсіх народаў гістарычнай Літвы са сталіцай ў Вільні».

«Канцэпцыя» арыентацыі на буржуазна-памешчыцкую Польшчу грунтавалася на распальванні варожасці беларусаў да Расіі, на грубой фальсіфікацыі гісторыі адносін двух брацкіх народаў. У ганьбаванні рускай культуры, гісторыі, усяго рускага нацыяналісты бачылі адзін з важнейшых напрамкаў сваёй ідэалагічнай дзейнасці. Галоўны тэзіс заключаўся ў тым, што сумеснае дзяржаўнае жыццё беларусаў і рускіх тоіць у сабе нібыта смяротную небяспеку для развіцця беларускай мовы, літаратуры, мастацтва і інш. І, такім чынам, каб захаваць і развіць беларускую культуру, трэба дзяржаўна адасобіцца ад рускіх, парваць з Расіяй. Але паколькі ўплыў рускай культуры ў Беларусі быў выключна глыбокі, то супраць гэтага «зла» прапаноўваецца прыняць самыя рашучыя меры. Газета «Беларусь» пісала: «...Нам трэба карыстацца метадамі разбурэння рускай школы і ўвогуле рускай культуры, неабходна стварэнне на гэтых руінах уласнай школы, стварэнне ўласнай культуры, усталяванне панавання беларускай культуры». А каб ажыццявіць гэта, па сутнасці справы, варварства, патрэбна дзяржаўная незалежнасць.

Паходы Дзмітрыя-самазванца і Напалеона на Маскву трактаваліся прэсай як вялікая прагрэсіўная з'ява. І нібыта гэта не агрэсія, а проціборства перадавой заходняй культуры з азіятчынай. Ваюючы з бальшавікамі, і польская армія ажыццяўляе тую ж гістарычную місію: «Цяпер трэці раз культура Захаду пасоўваецца на Усход, — пісала газета «Звон», — але спатыкае вялікі адпор азіяцкай культуры».

У доказ неабходнасці разрыву з Расіяй прыводзіліся і іншыя аргументы: для рускіх, маўляў, характэрны эканамічная і культурная адсталасць, цэнтралісцкія тэндэнцыі, якія нібыта пагражаюць самабытнасці Беларусі, і г. д.

Называючы сябе нацыянальнымі, газеты «Звон», «Беларусь» і іншыя, па сутнасці, прапагандавалі ідэі махровых польскіх шавіністаў, якія імкнуліся да анексіі Беларусі. У выгадным для іх плане тлумачылася і само паняцце «дзяржаўнай незалежнасці». Аказваецца, яна ўжо ў сілу аб'ектыўных прычын павінна быць урэзанай. Беларусь занадта бедная і эканамічна неразвітая, у яе няма вугалю, жалеза, прамысловай вытворчасці. Таму ад некага ўсё ж яна павінна быць залежнай. І, зразумела, лепшы заступнік беларусаў — гэта Польшча.

Зямлю ў памешчыкаў забіраць нельга, тым больш без выкупу, таму што гэта пагражае інфляцыяй, пагаршэннем забеспячэння прадуктамі харчавання. І ці ўвогуле патрэбна зямельная рэформа? У Беларусі дастаткова зямлі, каб задаволіць ёю ўсіх беззямельных.

Са свайго боку, дабіваючыся рэалізацыі захопніцкіх планаў, Польшча імкнулася паставіць сабе на службу беларускія буржуазна - памешчыцкія і дробнабуржуазныя партыі. Польскія дзяржаўныя дзеячы не без трывогі назіралі за абвастрэннем становішча на акупіраваных тэрыторыях. Заявы аб высакародных мэтах Польшчы ў Беларусі рашуча разыходзіліся з канкрэтнымі справамі. На акупіраванай тэрыторыі працоўныя Беларусі ўсё больш рашуча змагаліся са сваімі прыгнятальнікамі за аднаўленне народнай улады і ўз'яднанне з Расіяй. Нягледзячы на ўзмацняючыя карныя меры, разгаралася полымя партызанскага руху. Нават у самой польскай прэсе было шмат крытыкі ўсходняй палітыкі ўрада. Разам з тым польскім дыпламатам патрэбен быў «голас беларусаў» для ўздзеяння на палітыку краін Антанты ў адносінах польскіх усходніх граніц. Патрэбны былі «козыры» і для адстойвання тэрытарыяльных прэтэнзій на мірнай канферэнцыі ў Парыжы.

Акупацыйная адміністрацыя (у тым ліку і з дапамогай сакрэтнай агентуры) уважліва вывучала становішча, сацыяльныя сілы, на якія можна разлічваць. Ацэнка карысці той ці іншай арганізацыі ставілася ў залежнасць ад таго, у якой ступені яна падтрымлівае палітыку польскага ўрада ў адносінах беларускіх земель. Безумоўна, больш за ўсё задавальнялі тыя арганізацыі, якія, выдаючы сябе за голас беларускага народа, выступалі за ўключэнне Беларусі ў цэлым ці яе асобных губерняў у склад Польскай дзяржавы. І трэба адзначыць, што польскія ўлады даволі дакладна вызначалі палітычны аўтарытэт беларускіх нацыяналістычных арганізацый. Эфектыўнай дапамогі чакаць не даводзілася. Па іх цвёрдаму перакананню, «дзяржаўнай незалежнасці» дабіваюцца беларускія інтэлігенты, якія не мелі колькі-небудзь значнай падтрымкі ў насельніцтва.

Пры ўсіх сваіх пагардлівых адносінах да беларускіх нацыяналістычных арганізацый, кіруючыя колы Польшчы ўсё ж вымушаны былі супрацоўнічаць з імі.

Адначасова польскія палітыкі і ідэолагі спрабавалі зразумець нацыянальную самасвядомасць беларускага народа. У аснове іх падыходу заключаліся крытэрыі, якія адпавядалі буржуазнаму разуменню сутнасці нацыянальных адносін. Пераважала думка, што ў беларускага насельніцтва нацыянальная самасвядомасць поўнасцю адсутнічае, што яно ўвогуле далёкае ад ідэй нацыянальнай дзяржаўнасці. Даволі цікавае ў гэтым плане данясенне штаба Першай польскай арміі галоўнаму камандаванню: «Беларусы не адчуваюць сваёй нацыянальнай адасобленасці і разам з астатнім праваслаўным насельніцтвам цягнуцца да бальшавізму». Складальнікам данясення здавалася, што «цяга да бальшавізму» і нацыянальныя інтарэсы працоўных несумяшчальныя. Гэта ж думка выказана і ў сакрэтнай палітычнай інструкцыі міністра замежных спраў Польшчы дыпламатычным установам за мяжой, складзенай ужо пазней, у верасні 1920 года. Міністр канстатаваў адсутнасць «пачуцця нацыянальнай адасобленасці ў няпольскай часткі насельніцтва». Некаторыя польскія дзеячы заяўлялі, што Беларусь і беларусы — гэта фікцыя. Такія «тэорыі» толькі распальвалі захопніцкія апетыты шавіністаў.

Але былі палітычныя колы, якія лічылі, што ў Беларусі магчыма правядзенне больш гібкай акупацыйнай палітыкі, якая ўлічвае нацыянальны фактар. Яны прапаноўвалі Ю. Пілсудскаму дазволіць стварэнне беларускага ўрада і беларускага войска. Адначасова заклікалі беларускія нацыяналістычныя арганізацыі згуртавацца вакол адзінага цэнтра, «пачаць практычную работу па арганізацыі сіл для барацьбы з нашэсцем бальшавікоў, для абароны і вызвалення беларускіх зямель». Асуджаючы раскол, што адбыўся ў Беларускай радзе ў снежні 1919 года, орган ППС газета «Работнік» расцаніла выхад «сацыялістаў» з Беларускай рады як дзеянне, якое супярэчыць... сацыялізму.

Кастрычніцкая рэвалюцыя, сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне, будаўніцтва новага жыцця, барацьба з нямецкімі захопнікамі і ўнутранай контррэвалюцыяй зрабілі пераварот у палітычнай і нацыянальнай свядомасці беларускіх працоўных. Расло пачуццё салідарнасці працоўных Беларусі з працоўнымі ўсёй Савецкай краіны. Ажыццяўленне сваіх класавых і нацыянальных спадзяванняў беларускі рабочы і селянін бачылі ў трывалым саюзе беларусаў, рускіх і іншых нацый краіны ў сумеснай барацьбе за лепшую будучыню. Супраціўленне захопнікам узмацнялася. Яно было выяўленнем класавай і нацыянальнай самасвядомасці беларускіх працоўных.

У сакавіку 1920 года польскае міністэрства замежных спраў па даручэнню ўрада стварыла спецыяльную камісію на чале з Л. Васілеўскім (пасля ён стаў міністрам замежных спраў) для правядзення перагавораў з «прадстаўнікамі беларускіх палітычных груп» у мэтах выпрацоўкі «праекта рэгулявання польска-беларускіх адносін».

Давераная асоба «беларускіх палітычных колаў» рэктар Мінскага педагагічнага інстытута прафесар В. Іваноўскі прыбыў у Варшаву з «Мемарыялам па беларускаму пытанню», у якім былі выкладзены патрабаванні беларускага боку. Па сутнасці В. Іваноўскі прадстаўляў паланафільскае крыло «беларускіх палітычных колаў». На перагаворах у Мінску 20—24 сакавіка 1920 года аб умовах «супрацоўніцтва» прадстаўнікоў беларускіх нацыяналістычных арганізацый і польскіх улад беларускі бок, акрамя В. Іваноўскага, прадстаўлялі яшчэ сем чалавек.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ,**
**прафесар, доктар юрыдычных навук.**

**(Заканчэнне будзе).**





Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва па традыцыі праходзіць штогод у час вясновых школьных канікул. У гэтыя дні ў школах і Дамах культуры, канцэртных залах і кінатэатрах дзеці сустрэліся з кампазітарамі і музыкантамі, прафесійнымі і самадзейнымі артыстамі.

Адметнай падзеяй сёлетняга Тыдня стаў заключны канцэрт, які адбыўся ў мінскім Палацы культуры і тэхнікі аўтазавода. Ужо ў фае госці траплялі ў святочную атмасферу. Тут іх сустракаў сталічны ансамбль цымбалістак Палаца культуры тэкстыльшчыкаў і ансамбль танца «Зубраня», дзіцячы хор «Равеснік» з Барысава. Сам канцэрт складаўся з чатырох частак: «Трубачы вясны», «Сіняя птушка юнацтва», «Кропля расістая дзяцінства», «Рытмы вясновыя». Больш за 500 юных і дарослых артыстаў было занята ў гэтым канцэрце.

НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі заключнага канцэрта.

Фота Ю. ЗАХАРАВА.



## ІМЯ ВЫДАТНАЙ СПЯВАЧКІ

Першы рэспубліканскі конкурс вакалістаў у Беларусі быў праведзены літаральна напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны — у маі 1941 года. У пасляваенны час адбылося яшчэ сем такіх конкурсаў. Сярод іх лаўрэатаў былі вядомыя сёння спевакі — народны артыст БССР Я. Пятроў, заслужаныя артысты рэспублікі Л. Каспорская, Н. Казлова, І. Краснадубскі і іншыя.

Чарговы рэспубліканскі конкурс вакалістаў пройдзе ў Мінску з 16 па 22 красавіка. Але ён набывае новы статус. З сёлетняга года конкурс будзе насіць імя выдатнай беларускай спявачкі, народнай артысткі СССР Л. Александроўскай.

У конкурсе прымуць удзел маладыя вакалісты з Мінска, Гродна, Гомеля. Сярод іх студэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і Мінскага музычнага вучылішча, салісты Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР, Беларускай дзяржаўнай і Гомельскай абласной філармоній, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Шырмы і іншыя.

Праграма конкурсу, які пройдзе ў тры туры, уключае сачыненні розных жанраў—класічныя і сучасныя оперныя арыі, абавязковае выкананне беларускіх рамансаў, народных песень, арый з опер беларускіх кампазітараў і г. д.

Пераможца будзе ўзнагароджаны прызам імя Л. Александроўскай. Акрамя таго, устаноўлены прызы за лепшае выкананне твораў па жанрах.

У дзень пачатку конкурсу, 16 красавіка, адбудзецца цырымонія адкрыцця помніка Л. Александроўскай.

В. НІКАЛАЕЎ.

## ЗАГУЧАЦЬ ФУГІ І ХАРАЛЫ

На цэнтральнай плошчы Вілейкі цяпер, здаецца, стала святлей у любое надвор'е — ад медзянога водсвету абноўленых вежаў, рознакаляровых вітражоў старога касцёла, рэстаўрацыю якога заканчваюць работнікі спецыялізаваных майстэрань «Белрэстаўрацыя».

На будаўніча-мантажных работах асвоена больш як 300 тысяч рублёў. Такая актыўнасць тлумачыцца агульнай зацікаўленасцю: помнік архітэктуры пачатку нашага стагоддзя стане культурным цэнтрам Вілейшчыны. Тут будзе канцэртна-выставачная зала, другая пасля полацкага Сафійскага сабора ўстанова такога тыпу. Яе задача — эстэтычнае выхаванне людзей, стварэнне ўмоў для духоўнага яднання прыхільнікаў мастацтва.

Тут імкнуцца стварыць сістэму эстэтычнага выхавання людзей розных узростаў і мастацкіх густаў. Гэтаму будзе спрыяць цесны духоўны кантакт гледача з выканаўцамі: не ўзмоцнены мікрафонам голас спевака або дэкламатара, магчымасць бачыць у вачах артыста радасць, сум, натхненне — усю гаму агульначалавечых пачуццяў.

Цяпер ідуць перагаворы з чэхаславацкімі сябрамі аб устаноўцы ў райцэнтры аргана.

*ІНТЭРВ'Ю З КАМПЕТЭНТНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ*

# МЕРА ЎСЯГО—ЧАЛАВЕК

**Са старшынёй Саюза мастакоў БССР, народным мастаком БССР, Уладзімірам СТАЛЬМАШОНКАМ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

*— Некалькі тыдняў назад мне давялося прысутнічаць на аўкцыёне рэспубліканскай маладзёжнай мастацкай выстаўкі, які праводзіўся ў Мінску. Аднак першы тур яго прайшоў «упустую»: не была набыта ні адна з прапанаваных жывапісных карцін. Здаецца, незадаволены і мастакі, і патэнцыяльныя пакупнікі. У чым тут справа?*

— Хачу ўдакладніць, што на аўкцыёне ўсё ж тое-сёе з невялікіх па памеру жывапісных пейзажаў і нацюрмортаў было набыта пакупнікамі. А ў першым туры на буйнамаштабныя палотны, сапраўды, ніхто не спакусіўся. Уласна кажучы, яны і прызначаны толькі для грамадскага інтэр'ера. Мы разлічвалі, што іх набудуць пакупнікі ад прадпрыемстваў. Аднак гэта ўжо пралікі тых, хто арганізоўваў мерапрыемства. Тым не менш тут ёсць над чым падумаць не толькі ім. Сам аўкцыён стаў чымсьці накшталт лакмусавай паперкі, якая праявіла ўсе нашы няпростыя і неадназначныя праблемы.

Скажам, людзей мог адпужаць кошт палатна: 300, 500, 700 рублёў. Сапраўды, не танна. Але ж усе работы прадаваліся тут удвая танней таго кошту, за які твор у аўтара набыло б Міністэрства культуры, якое, вы ведаеце, атрымлівае да[illegible]ыю ад дзяржавы, ці Мастацкі [illegible]нд Саюза мастакоў БССР. Такім [illegible]ынам, багатыя мецэнаты—Міністэрства і Саюз—куплялі ў мастакоў работы (дадам, не заўсёды вартыя таго), і нярэдка за немалыя грошы. У [illegible]іку ў дырэкцыі выставак Мастацка[illegible]онду рэспублікі пыліцца больш [illegible] дзесяць тысяч твораў на суму тры мільёны рублёў. Гэта, як кажуць, «незапатрабаванае» мастацтва, на якое патрачаны народныя грошы... Сам па сабе такі факт, як і паўпустыя залы музеяў мастацтва, карцінных галерэй, прымушае пра многае задумацца. Вось вы заўважылі, што вынікамі аўкцыёна былі пакрыўджаны некаторыя мастакі. Але ж чаго крыўдзіцца? Тут маладыя аўтары, я думаю, упершыню сутыкнуліся з інтарэсамі рынку, з рэальнасцямі, якія, па сутнасці, і павінны выяўляць сапраўдны кошт таго ці іншага твора.

Аднак сёння (і гэта сімптаматычна) вялікія грошы за твор мастацтва мала хто заплаціць. Хутчэй набудзе яшчэ адзін дыван, залаты пярсцёнак... Разважаючы тут пра вытокі гэтай сітуацыі, я не хачу «спісваць» усё на абывацельскі густ і мяшчанства публікі. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што многія, вельмі многія нашы сучаснікі, увогуле неблагія спецыялісты ў самых розных галінах, надта далёкія ад мастацтва, слаба, калі не сказаць зусім, не арыентуюцца ў выяўленчым мастацтве.

*— Чаму склалася такая сітуацыя?*

— Ужо не адно пакаленне дзяцей выходзіць у свет, не маючы ўяўлення пра гісторыю сусветнага і нацыянальнага мастацтва. Па сутнасці, яны не атрымліваюць эстэтычнага выхавання ні ў дзіцячым садзіку ні ў школе. А ўрокі малявання ці спеваў ніяк не могуць запоўніць гэты прабел. Вось адна прычына. Іх яшчэ нямала.

Не трэба закрываць вочы і на тое, у якое становішча трапіла само выяўленчае мастацтва. З аднаго боку — матэрыяльная падтрымка дзяржавы. А з другога — рэгламентаванасць, дагматызм, нецярпімасць.

На шматлікіх выстаўках з'яўляецца безліч карцін на ўжо апрабаваную, так званую «вытворчую» тэму з «прылізанымі» сюжэтамі і «правільнымі» героямі. А тым часам мілыя сэрцу чыноўніка-бюракрата вернісажы ўсё радзей і радзей наведваюць людзі.

*— Ці не пратэстам супраць казёншчыны, адкрытай халтуры, кан'юнктуры ў мастацтве стала дзейнасць так званых нефармальных аб'яднанняў мастакоў, такіх, як «Галіна», «Форма»?*

— Сапраўды, арганізаваныя летась удзельнікамі гэтых аб'яднанняў выстаўкі былі вельмі папулярныя ў Мінску. Іх з цікавасцю хадзілі глядзець і моладзь, і людзі старэйшыя. Тут можна было ўбачыць тое, што звычайна не прадстаўлялася ў афіцыйных экспазіцыях, на што доўгія гады існавала «табу». Маладзёжныя нефармальныя выстаўкі былі пранізаны авангардысцкім духам. Зразумела, негатыўныя з'явы ў развіцці нашага мастацтва не маглі абмінуць свядомасць моладзі. І ў сваіх работах пачынаючыя аўтары імкнуцца разабрацца ў сутнасці гэтых з'яў, выпрацаваць новую выяўленчую мову, супрацьпаставіць сябе прафесійнаму мастацтву гадоў застою.

Хачу сказаць, што ў неафіцыйных суполках самыя розныя людзі — і сапраўдныя шукальнікі ісціны, і авантурысты, і дылетанты. Таму на іх выстаўках можна было ўбачыць і адпаведныя работы. Напрыклад, кампазіцыі з усялякага ламачча, з муляжамі людзей і жывёл, з бытавой тэхнікай... З мастацкага боку ўспрымаць іх можна як варыяцыі рускага авангарда 20-х гадоў і заходняга 50-х — 60-х. Але былі і вельмі арыгінальныя творы мясцовых фармалістаў, мадэрністаў, чые пошукі, мне так бачыцца, павінны даць плён.

*— Уладзімір Іванавіч, а што новага, каштоўнага ўнеслі ў беларускае мастацтва маладыя «бунтаўшчыкі»?*

— Як старшыня Саюза, я вітаю і падтрымліваю «бунтарскае» мастацтва ў агульным працэсе перабудовы савецкага грамадства, але лічу, што пра дасягненні «нефармалаў» пакуль гаварыць рана. Дарэчы, пра іх выстаўкі шырока пісалася ў нашай прэсе, вядучыя мастацтвазнаўцы аналізавалі работы, удзельнічалі ў абмеркаваннях. Адмоўнай у «нефармалаў» мне здаецца іх нецярпімасць, якая прымушае часта ісці на канфрантацыю з Саюзам мастакоў. Нельга, на мой погляд, не згадзіцца з мастацтвазнаўцам Кантарам, які піша, што нефармальнае «мастацтва цураецца глыбіні, сацыяльнай праблематыкі, а галоўнае, яно адарвана ад надзённых задач, якія стаяць перад кожным сур'ёзным пластычным эксперыментам,— ад выхаду ў жыццё». Таму тут пакуль няма падстаў гаварыць аб нейкім якасным прагрэсе мастацтва.

Тым не менш я ўсё ж лічу, што «бунтары», якія так гучна заявілі пра сябе ў апошнія два-тры гады, актывізавалі, ажывілі мастацкае жыццё рэспублікі.

*— Гаворачы пра нефармальныя суполкі маладых мастакоў і характарызуючы іх адносіны з Саюзам, вы скарысталі слова «канфрантацыя». Своеасаблівая супярэчнасць паміж маладым пакаленнем і старэйшым, відаць, існавала заўсёды. Гэта адна з агульначалавечых праблем. Аднак у самім Саюзе і сапраўды даволі мала маладых... Якая палітыка ў адносінах да моладзі будзе весціся?*

— Я б не сказаў, што наш Саюз зусім ужо аброс імхом. Хаця пэўная тэндэнцыя да гэтага ў апошнія гады намецілася. Так, ён пастарэў. Праўда, дзеля аб'ектыўнасці я павінен сказаць, што пры Саюзе даволі даўно працуе маладзёжнае аб'яднанне — патэнцыяльнае папаўненне. І тым не менш амаладжэнне ішло марудна. Па кімсьці даўно напісаных законах студэнты, як правіла, не маглі браць удзел у выстаўках, даволі цяжка было несаюзнай моладзі — гэта значыць, не членам Саюза мастакоў, наладзіць і нейкую групавую выстаўку. Словам, праявіць сябе — мінімум магчымасцей. Атрымлівалася, што да сталых членаў Саюза

праяўляўся клопат куды большы, чым да пачаткоўцаў. І цяпер многія з маладога пакалення не маюць майстэрань, не могуць працаваць... Таму палітыку тут трэба кардынальна мяняць. І нешта ўжо зроблена. Напрыклад, паламана сістэма прыёму ў Саюз. Ужо летась мы прынялі некалькі студэнтаў тэатральна - мастацкага інстытута ў маладзёжнае аб'яднанне, а чацвёра выпускнікоў—за іх дыпломныя работы—у Саюз. Будзем імкнуцца да таго, каб яшчэ ў час вучобы студэнты далучаліся да спраў, актыўна ўключаліся ў мастацкае жыццё.

З «нефармаламі» таксама будзем супрацоўнічаць. Каб уся энергія, энтузіязм і здаровая злосць маладосці пайшлі не на разбурэнне, а на развіццё і паглыбленне традыцый. Прагрэс не ў разбурэнні, а ў адмаўленні ад догмаў і застою.

*— А як скла́ліся ўзаемаадносіны прафесійнага Саюза з непрафесійным мастаком Ісачовым з Рэчыцы, многа работ якога трапіла за мяжу, дзе, між іншым, была наладжана нават выстаўка?*

— У Ісачова быў канфлікт з мясцовымі органамі ўлады. Пра гэта мы даведаліся з артыкула ў рэспубліканскай прэсе. Тады да Ісачова паехалі прадстаўнікі маладзёжнага аб'яднання Саюза. І дамовіліся ўзяць некаторыя яго творы на выстаўку. Гледачы змогуць паглядзець іх сёлета ў красавіку, у час Тыдня выяўленчага мастацтва.

Чалавек ён быў не надта адукаваны, аднак несумненна таленавіты. Шкада, што ўнутраны разлад з сабой (Ісачоў быў таксікаманам) прывёў яго да смерці.

*— Роўна год назад адбыўся XII з'езд Саюза мастакоў БССР, дзе было вырашана карэнным чынам перабудаваць, паскорыць развіццё выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы. Як вы лічыце, у чым сэнс перабудовы ў выяўленчым мастацтве?*

— Мера ўсяго — чалавек. Так ці інакш усё залежыць ад яго. На маю думку, сэнс перабудовы ў нашай сферы заключаецца ў звароце мастака перш за ўсё да самога сябе, да свайго сумлення. Творчая асоба павінна прааналізаваць зробленае і задумацца над тым, што і як рабіць далей. Перабудова ўнутранага свету чалавека перш за ўсё звязана з адмовай ад стэрэатыпаў, шаблонаў, якія моцна заселі ў нашай свядомасці.

Перабудова, мне здаецца, адбываецца сёння ў мастацкім жыцці больш інтэнсіўна, чым у саміх мастацкіх творах. Перш за ўсё яна ўвасобілася ў даволі нязвыклай, імклівай стыхіі з'яўлення ўсялякага роду выставак. І справа тут не толькі ў іх колькасці, але і ў якасці. Раней таксама было многа розных аглядаў, але ўсё ж аднатыпных. Сёння ж мы можам глядзець і авангардыстаў, і фармалістаў, і абстракцыяністаў. Параўноўваць, рабіць вывады, весці сур'ёзную гаворку, дыскусію пра якасць і значэнне таго ці іншага твора ці цэлага напрамку ў мастацтве. У такой духоўнай атмасферы адны напрамкі, натуральна, набываюць жыццёвасць, іншыя здаюць пазіцыі.

Зусім натуральна, што адбыліся змены і ў жыцці самога Саюза мастакоў БССР. Фарміраванне выставак зараз носіць адкрыты характар — рэчы для выстаўкі адбірае сам аўтар. Былі ліквідаваны недахопы сістэмы выставачных камітэтаў (гэта калі на выстаўку пэўная група мастакоў адбірае работы).

Спадзяёмся, што неўзабаве адмовімся ад сістэмы дзяржаўных заказаў і дагавораў. Будзем пераходзіць на непасрэдныя закупкі.

Стратэгію і тактыку дзейнасці распрацоўвае лабараторыя сацыялагічных даследаванняў Саюза мастакоў БССР. Магістральная лінія цяпер такая: эстэтычнае выхаванне народа сродкамі выяўленчага мастацтва. Мы былі ініцыятарамі стварэння цэнтра эстэтычнага выхавання. У бліжэйшыя год-два ў Мінску, у парку Горкага, на беразе Свіслачы, ён пачне працаваць. Прынамсі, тут будзе атрымліваць эстэтычную адукацыю не толькі юнае пакаленне, але і людзі ўсіх узростаў.

Цэнтр эстэтычнага выхавання ў пэўным сэнсе можна лічыць нашым дзецішчам. І нават сур'ёзна падумваю над тым, каб пайсці туды працаваць.

*— Уладзімір Іванавіч, вы чалавек несумненна вялікага грамадскага «тэмпераменту». Нездарма, відаць, вас ужо другі раз выбіраюць старшынёй свайго творчага Саюза беларускія мастакі. Службовыя справы, як я разумею, займаюць у вашым раскладзе дня асноўнае месца. А як жа ўласная творчасць?*

— Мне падабаецца цяперашні час. І хочацца працаваць. А ў сутках толькі 24 гадзіны. Таму я падымаюся ў шэсць гадзін раніцы і да дзевяці звычайна праводжу ў майстэрні. У дзевяць — у Саюзе. Потым пасля даволі напружанага дня зноў вяртаюся ў майстэрню. Зараз заканчваю фрагмент манументальнага роспісу «Хлеб перамогі» для калгаса імя Арлоўскага. Як галоўны мастак будучага Палаца культуры рэспублікі, працую над эскізам габелена генеральнай заслоны.

*— З 350 членаў Саюза ў сельскай мясцовасці ў нас жывуць усяго двое членаў Саюза і некалькі членаў маладзёжнага аб'яднання. Гэта, думаецца, непасрэдна звязана з даволі нізкай культурай сучаснай вёскі. Якую праграму дзеянняў прапануе Саюз?*

— У выступленні на нядаўнім з'ездзе мастакоў СССР у Маскве я гаварыў пра канкрэтны вопыт беларускай арганізацыі, якая тварам павярнулася да «глыбінкі». «Беларускі варыянт» накіраваны на шырокую эстэтызацыю асяроддзя. Склалася так, што ў сталіцы канцэнтруецца культура, а ў правінцыі людзі як бы абдзелены ў гэтым сэнсе. Хаця тут таксама ёсць свае музеі, помн[illegible] культуры і прыроды. Аднак усё [illegible] не мае ні адпаведнага выгляду, ні адпаведнай арганізацыі.

У нас даўно працуе група архітэктараў і мастакоў, [illegible]я распрацоўвае эксперыментальн[illegible] схему комплекснага архітэктурна-мастацкага пераўтварэння населеных пунктаў. «Беларускі варыянт» павінен спрацаваць. У сённяшняй сітуацыі Мастацкі фонд БССР пераходзіць на поўны гаспадарчы разлік, дагаворы мы будзем заключаць з органамі мясцовай улады, якія ў план будаўніцтва будуць уключаць і мастацкія работы.

Яшчэ вось такая інфармацыя: мяркуецца адкрыць у бягучай пяцігодцы 60 карцінных галерэй у раённых цэнтрах і населеных пунктах. На базе гэтых галерэй і паралельна з імі Саюз мастакоў БССР мяркуе наладзіць сістэму малых перасоўных выставак ва ўсіх магчымых выставачных памяшканнях: Палацах культуры і клубах, кінатэатрах і бальніцах, спартыўных камбінатах, ва ўстановах і на прадпрыемствах, у школах.

Там, на сустрэчах з мастацтвам, на малых лакальных выстаўках павінен вырасці, выхавацца глядач, які здольны прыйсці на вернісаж цэнтральны. Развіццё эстэтычнага выхавання народа — задача надзвычай вялікая і складаная. Частку гэтай работы бярэ на сябе створаная нядаўна дырэкцыя выставак Міністэрства культуры р[illegible]публікі. Будзе створана мінская абласная арганізацыя, што замацуе мастакоў у раённых гарадах і на вёсцы. Пачаў работу тэлелекторый па выяўленчаму мастацтву са штотыднёвым выхадам у эфір.

*— Як бы вы сфармулявалі асноўныя задачы Саюза мастакоў на даным этапе як творчай арганізацыі, як грамадскага інстытута?*

— Мы павінны і будзем падтрымліваць усё найбольш перспектыўнае, ствараць мастакам умовы для плённай работы, для праяўлення кожным сваёй індывідуальнасці. Мы лічым, што наш глядач павінен бачыць як мага больш, каб мець сваю думку пра мастацтва, выпрацаваць крытэрыі ацэнак. А ад таго, якім будзе мастацтва, і ці зможа яно выхаваць пачуццё сацыяльнай адказнасці ў кожнага за тое, што робіцца навокал, я думаю, не ў малой ступені залежыць наша будучыня.

## ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАЕ АРХІТЭКТУРНАЕ АБЛІЧЧА НАШАЙ СТАЛІЦЫ

# «КАМЕННЫ» ЛЕТАПІС МІНСКА

Сталіца Савецкай Беларусі Мінск — адзін з прыгажэйшых гарадоў нашай краіны, буйны адміністрацыйны, прамысловы, навуковы і культурны цэнтр. Сёлета яму спаўняецца 921 год — узрост шаноўны, хоць на знешні выгляд пра гэта сказаць цяжка. Сучасны Мінск вызначаецца своеасаблівымі ансамблямі вуліц і плошчаў, шырокімі праспектамі і зялёнымі паркамі, скверамі ды блакітнымі каралямі каналаў і вадасховішчаў...

Больш дзевяці стагоддзяў назад, у далёкім 1067 годзе, а менавіта з гэтай датай звязана першае ўпамінанне пра Мінск (Меньск, Менеск) у старажытным рускім летапісным зводзе «Повесть временных лет», на правым беразе ракі Свіслач каля ўпадзення ў яе ракі Нямігі, на замчышчы, стаяў «дзяцінец» — умацаваны цэнтр. Ён быў абнесены высокім земляным валам з драўлянымі сценамі па грэбені, меў двух'ярусную драўляную браму з адкіднымі варотамі і абмываўся водамі тады паўнаводных Нямігі і Свіслачы.

За сваю шматвяковую гісторыю горад прайшоў складаны шлях. Неаднаразова быў спалены і разбураны і зноў паўставаў з попелу пасля нашэсця ворагаў. У гады Вялікай Айчыннай вайны горад амаль поўнасцю быў зруйнаваны. Адразу ж пасля вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў пачалося яго аднаўленне. Памяць аб гераічным мінулым беражліва захоўваецца мінчанамі. Яна ўвекавечана ў назвах вуліц і плошчаў, у мемарыяльных комплексах і знаках. Сведкамі старажытнай гісторыі горада і ўсяго беларускага народа сталі помнікі архітэктуры, фрагменты забудовы і планіроўкі, якія захаваліся да нашых дзён і з'яўляюцца неад'емнай часткай сучаснага Мінска.

З архітэктурнай і горадабудаўнічай спадчыны Мінска, якая дайшла да нас, у першую чаргу можна вылучыць Троіцкае і Ракаўскае прадмесці, пабудовы Верхняга горада, а таксама асобныя архітэктурныя збудаванні ў іншых частках сталіцы.

Квартал Троіцкага прадмесця з'яўляецца першым аб'ектам Мінска, дзе праводзіцца поўная рэгенерацыя ўсяго архітэктурна-горадабудаўнічага комплексу. Пасля заканчэння работ прадмесце не стане толькі музейным экспанатам, а актыўна ўключыцца ў сучасную гарадскую структуру, у сувязі з чым частка дамоў будзе адведзена пад жыллё, творчыя майстэрні, гандлёвыя крамы, кафэ і на іншыя мэты.

Узаемадзеянне мінулага і сучаснага выяўляецца ў размяшчэнні квартала Троіцкага прадмесця. Рака Свіслач аб'ядноўвае сучасны ансамбль праспекта Машэрава і гістарычную забудову XIX стагоддзя.

На месцы Ракаўскага прадмесця ў XII—XIII стагоддзях быў адзін з гарадскіх пасадаў. Затым тут атрымала развіццё радыяльная планіроўка — дамы будаваліся ўздоўж вуліц Нямігі, Ракаўскай і Юр'еўскай (сучасных Харкаўскай і Астроўскага). Планіроўка архітэктурнай зоны Ракаўскага прадмесця ўяўляе сабой помнік горадабудаўніцтва XVI—XVII стагоддзяў, а забудова вуліц Астроўскага, Замкавай, Віцебскай і

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ПАНО НА ЗАВОДСКІХ КАРПУСАХ

Беларускія гарады і населеныя пункты за апошнія дзесяцігоддзі значна змянілі свае аблічча — творы манументальнага мастацтва сталі іх неад'емнай часткай. Шматлікія пано і габелены, вітражныя кампазіцыі ўпрыгожваюць інтэр'еры і экстэр'еры вытворчых прадпрыемстваў, устаноў культуры.

Прозвішчы беларускіх мастакоў-манументалістаў А. Кішчанкі, У. Стальмашонка, Г. Вашчанкі, В. Пазняка і іншых вядомы далёка за межамі рэспублікі. Іх работы адзначаны грамадскасцю, атрымалі заслужанае прызнанне. Традыцыі майстроў сярэдняга пакалення сёння плённа прадаўжаюць маладыя аўтары—выпускнікі аддзялення манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Сярод іх па праву можна адзначыць работу У. Крываблоцкага і Ю. Багушэвіча над вялікай мазаікай на будынках Брэсцкага электрамеханічнага завода.

Тры манументальныя пано (плошча кожнага — 270 квадратных метраў) будуць складаць велічны твор, які стане галоўным у архітэктурна-мастацкім асяроддзі горада.

Першае мазаічнае пано прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны і перамозе ў ёй савецкага народа. Яго назва — «Зямля, абпаленая вайной». Цэнтральны вобраз гэтай кампазіцыі — воін, які рукой закрывае ад ворагаў нашы граніцы, ён сімвалізуе сабой увесь народ, што падняўся супраць захопнікаў. Побач, у меншых па памерах кампазіцыях, мы ўбачым абаронцаў Брэсцкай крэпасці, беларускіх партызан, удзельнікаў парада Перамогі на Краснай плошчы. Лагічна завяршае задуму вобраз Маці, якая ратуе дзяцей ад пажару вайны. Кампазіцыя другога пано «Зямля адроджаная» складаецца таксама з некалькіх частак. Цэнтральны яе вобраз— прыгожая жанчына, якая сімвалізуе сабой абуджэнне прыроды. Працавітасць і гасціннасць беларускага народа ўвасоблены ў шматфігурнай кампазіцыі працаўнікоў сельскай гаспадаркі, якія нясуць на руках дары прыроды, хлебам-соллю сустракаюць гасцей. Духоўная сувязь людзей з роднай зямлёй, прыродай арганічна дапаўняецца сцэнамі традыцыйных народных святаў, шырока распаўсюджаных у нашым краі.

На трэцім пано адлюстраваны дасягненні навукі і культуры Савецкай Беларусі. Побач з постацямі вядомых беларускіх асветнікаў розных эпох мы ўбачым маладых вучоных, нашых сучаснікаў. Сцэнай пакарэння космасу, выкарыстання атама ў мірных мэтах плануецца завяршыць гэты твор.

Сёння ўжо закончана праца над першым пано «Зямля, абпаленая вайной». Майстры-выканаўцы Мінскага мастацка-вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР У. Раманкевіч і В. Батус у тэхніцы смальтавай мазаікі перавялі твор мастакоў на сцяну. Сёлета плануецца завяршыць другі і трэці тарцы будынкаў, якія таксама ўпрыгожаць велічныя пано. Гэты вялікі па маштабу і вобразна-пластычнаму вырашэнню твор манументальнага мастацтва будзе не толькі «візітнай карткай» нашай рэспублікі, але і ўсёй краіны. Яго ўбачаць на заводскіх карпусах усе, хто будзе ехаць да нас у госці праз заходнія «вароты» дзяржавы — горад Брэст.

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ.**



**НА ЗДЫМКУ: мастакі Ю. БАГУШЭВІЧ і У. КРЫВАБЛОЦКІ.**

# КАМЧАТСКИЕ МИЛЛИОНЕРЫ

О рыболовецком колхозе имени Ленина я впервые услышал от шофера такси, с которым ехал от аэропорта до Петропавловска-Камчатского. Разговор как-то незаметно перекинулся на морскую тематику, на рыбаков — мой спутник в юности отдал дань этой нелегкой профессии и говорил о ней со знанием дела:

— У нас, на Камчатке, самые ловкие рыбаки живут в Сероглазке — это поселок колхоза имени Ленина. Многие рвутся туда работать, да берут в колхоз осторожно, людей проверенных.

— Отчего же такая осторожность?

— Не хотят марку ронять. Там дело поставлено крепко, с размахом. «Сероглазов» я сразу узнаю — в них какой-то особый азарт к жизни есть.

Разговор этот возбудил желание познакомиться с колхозом и его людьми поближе.

Возникло это хозяйство в 1960 году на базе объединения трех рыболовецких колхозов и моторно-рыболовной станции, обеспечившей их судами и орудиями лова. Новый колхоз, как только доходы его стали расти, взял курс на создание мощной материальной базы. В 1966 году смогли купить первый океанский траулер БМРТ стоимостью 2,5 миллиона рублей. А сегодня колхозный флот насчитывает пять морозильных траулеров такого класса, шесть сейнеров-траулеров — в общей сложности 26 судов с совокупной мощностью двигателей 21 тысяча лошадиных сил. В первое десятилетие своей жизни колхоз обзавелся собственной судоремонтной базой и сейчас за соответствующую плату оказывает услуги по ремонту судов государственным предприятиям.

С некоторыми сторонами деятельности хозяйства меня познакомил главный колхозный экономист Владимир Драчев. Неделимый фонд колхоза составляет 105 миллионов рублей. С 1961 года работают на полном хозяйственном расчете. В первые годы, когда приобрели дорогостоящие суда, пользовались банковским кредитом, но уже в 1975 году окончательно рассчитались за ссуду. Ежегодно вылавливают по 170—180 тысяч тонн рыбы. Ее добыча и переработка дает хозяйству ежегодную прибыль 10—12 миллионов рублей.

В колхозе насчитывается 2 365 работников, из них примерно половину составляет плавсостав, а другую половину — судоремонтники и другие береговые службы.

— В отличие от государственных предприятий, — говорит Драчев, — мы не устанавливаем потолка заработной платы: все, что заработал, — твое. Потому и заработки наших рыбаков значительно превышают заработки на государственных судах. Например, капитан БМРТ, если он совершил один рейс в году (а это пять месяцев в море), получит примерно двенадцать тысяч рублей. Если два рейса — соответственно в два раза больше. А средний заработок работников плавсостава — около 11 с половиной тысяч рублей в год. Выловы рыбы у нас тоже превышают показатели на судах того же класса государственных предприятий за счет стопроцентного использования производственных мощностей, образцового содержания судов, освоения прогрессивных методов лова. У нас к колхозу отношение как к добротному дому, который мы построили своими руками. Здесь все наше, свое. И как-то очень наглядно видишь, куда идут заработанные совместно деньги. Это не только личное благосостояние. Это и жилые дома, построенные колхозом, и наш Дом культуры, и спортивная база, и собственный птицекомплекс.

За счет своего фонда социального обеспечения колхоз ввел надбавки к пенсиям, установил дополнительные льготы ветеранам войны и заслуженным колхозникам — оплату раз в год, во время отпусков, проезда в любую точку Советского Союза и обратно, предоставление бесплатных путевок в санатории и дома отдыха.

— Считаем, — подытожил беседу Драчев, — что мы стоим на один шаг ближе к подлинному социализму, чем многие из тех, кто живет рядом с нами.

Поселок Сероглазка особенно красив с моря, со стороны Авачинской бухты. По берегам ее тянутся вверх ярко окрашенные, под цвет моря и неба, каменные дома рыбаков. А над ними теряется в облаках конус вулкана.

Колхозные суда уходят отсюда на промысел иваси, трески и сельди вокруг Камчатского полуострова, к Сахалину и Курильским островам. Добывают рыбу круглогодично, но особенно горячая пора бывает летом, когда начинается лососевая путина. За каждый центнер выловленного лосося рыбаки получают 7 рублей 80 копеек, а колхоз при сдаче государству — 55 рублей.

Большинство капитанов судов в колхозе имеет высшее мореходное образование. Руководители хозяйства, как правило, бывшие капитаны с солидным рыболовным опытом. Так, заместитель председателя колхоза Владимир Музурантов 16 лет ходил в море, десять лет был капитаном на среднем траулере.

— В ближайшем будущем, — говорит Музурантов, — мы намечаем заменить крупные суда на более современные, способные повысить производительность труда. Расширять вылов рыбы и других продуктов моря не собираемся: выловы лимитируются службами охраны морских ресурсов. Но будем осваивать производство новых продуктов — например, из крабового сырья. Пока мы использовали только мясо краба, а оказывается, печень и панцирь можно использовать в медицине. Заключили недавно договор с одним из научных институтов. Создаем лабораторию по изготовлению из крабового сырья биологически активных веществ. Затраты сравнительно небольшие, а отдача будет огромная. Из моря много можно полезного взять, надо только умом раскинуть и с толком руки приложить.

**Аркадий КУДРЯ.**







**Мы живем в одной стране — СССР. У нас единый народнохозяйственный комплекс. Мы многое делаем общими силами. Поэтому нас не удивляет, когда на большой стройке в Белоруссии работают представители разных республик нашего Союза, а белорусов встретишь в российском Нечерноземье или, скажем, в нефтеносных районах Сибири.**

**Триста пятьдесят километров дорог предстоит проложить в Западной Сибири за пять лет (1986—1990 годы) строителям из Белоруссии. Решает эту сложную задачу трест «Белнефтедорстрой» Министерства строительства и эксплуатации автомобильных дорог БССР. С заданием прошлого года строители справились успешно: не только выполнили то, что было запланировано, но до конца года проложили дополнительные километры трассы. Это позволило нефтедобытчикам начать досрочное освоение новых месторождений, среди которых и крупнейшее — Ершовое.**

**В этом году коллектив «Белнефтедорстроя» ожидает очень напряженная работа: здесь решили на три месяца раньше установленного срока ввести в строй автомобильную дорогу к новым месторождениям нефти.**

**НА СНИМКАХ: на Ершовом месторождении; второй год работает в Западной Сибири бригадир строителей гомельчанин Владимир КАЗАК (на переднем плане); строится дорога.**

**Фото А. ТОЛОЧКО.**

# «АНГЛИЙСКАЯ» ГОСТИНИЦА В ЯЛТЕ

В Москве английская туристическая фирма «Вёджин холидэйз» и советская «Интурист» заключили соглашение, по которому английский партнер отныне становится арендатором гостиницы «Ореанда» в Ялте.

По мнению главы английской фирмы Ричарда Брансона, «Вёджин холидэйз» довольна подписанием этого контракта, который может открыть дорогу к более тесному сотрудничеству между заинтересованными британскими фирмами и советскими организациями в области туризма.

Но, конечно, «Вёджин холидэйз» при подписании этого соглашения руководствовалась не только желанием расширить контакты между гражданами двух стран. По словам Р. Брансона, эта сделка — пример хорошего бизнеса, который можно делать сегодня с советскими партнерами. Р. Брансон имел в виду принятый в СССР закон, дающий возможность создавать на территории нашей страны совместные с зарубежными фирмами предприятия.

Совместная эксплуатация отеля в Ялте в данном случае заключается в том, что управление хозяйством «Ореанды» берет на себя английская сторона, а обслуживающий персонал предоставит «Интурист». Полученную прибыль партнеры намерены поделить пополам.

«Ореанда» будет обслуживать туристов в основном с Британских островов. Это, естественно, не может не отразиться на работе отеля, которая должна сочетать русскую форму с английским содержанием.

Если первый опыт сотрудничества будет удачным, английский партнер готов расширить границы своей деятельности в нашей стране.

**Николай ГЕРАСИМОВ.** (АПН).

# СЛУЦКИЕ ПОЯСА

**Начало знаменитому ремеслу было положено в XVIII веке, когда в Слуцке возникла так называемая «персиарня». Тогда пояса делали лишь приезжие персы. Вскоре, однако, белорусские мастера превзошли иноземных учителей.**

Ткали пояса из золота и серебра, плели из ниток, вырезали из кожи и ткани... Излюбленным видом орнамента был овал, окруженный лиственной вой с выходящими стеблями и цветами, чаще всего — незабудками и васильками.

Сейчас на Слуцкой фабрике художественных изделий трудится около тысячи человек. Но пояса умеет ткать только Нина Павлова...

В ее руках снует челнок. Два нехитрых крепления в виде скоб, а между ними натянуты в два ряда нити...

Заказов много: нужны пояса артистам, музеям, на выставки, да и торговле хоть в небольшом количестве. Иногда Павловой помогает ткачиха-надомница О. Лагун. Больше на фабрике никто не владеет древним искусством.

— Может, не хотите раскрывать свои секреты? — интересуюсь у мастерицы.

— Что вы! Были у меня когда-то ученицы, да поразъехались, — отвечает Нина Николаевна. — Искусство это, однако, не пропадет. Много лет я вела при городском Доме пионеров кружок «Юные умельцы». От желающих заниматься не было отбоя. Иные девочки не хуже меня умеют пояса делать. Медали ВДНХ СССР имеют. Например, Таня Колядко моя лучшая ученица.

Сама Нина Николаевна еще и художник, и дизайнер. В ее альбоме зарисованы многие национальные орнаменты. Современные мотивы Павлова использует в поясах к знаменательным датам и юбилеям, скажем, к Олимпиаде-80. Мастерица на свой вкус подбирает цвета ниток, придумывает рисунок, ищет выразительные формы. Не поэтому ли из сотен изделий Павловой нет двух одинаковых? О таланте мастерицы говорят медали ВДНХ СССР и орден «Знак Почета».

**Н. ГУСЕВ.**





**Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва па традыцыі праходзіць штогод у час вясновых школьных канікул. У гэтыя дні ў школах і Дамах культуры, канцэртных залах і кінатэатрах дзеці сустрэліся з кампазітарамі і музыкантамі, прафесійнымі і самадзейнымі артыстамі.**

**Адметнай падзеяй сёлетняга Тыдня стаў заключны канцэрт, які адбыўся ў мінскім Палацы культуры і тэхнікі аўтазавода. Ужо ў фае госці траплялі ў святочную атмасферу. Тут іх сустракаў сталічны ансамбль цымбалістак Палаца культуры тэкстыльшчыкаў і ансамбль танца «Зубраня», дзіцячы хор «Равеснік» з Барысава. Сам канцэрт складаўся з чатырох частак: «Трубачы вясны», «Сіняя птушка юнацтва», «Кропля расістая дзяцінства», «Рытмы вясновыя». Больш за 500 юных і дарослых артыстаў было занята ў гэтым канцэрце.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі заключнага канцэрта.**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**



## ІМЯ ВЫДАТНАЙ СПЯВАЧКІ

Першы рэспубліканскі конкурс вакалістаў у Беларусі быў праведзены літаральна напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны — у маі 1941 года. У пасляваенны час адбылося яшчэ сем такіх конкурсаў. Сярод іх лаўрэатаў былі вядомыя сёння спевакі — народны артыст БССР Я. Пятроў, заслужаныя артысты рэспублікі Л. Каспорская, Н. Казлова, І. Краснадубскі і іншыя.

Чарговы рэспубліканскі конкурс вакалістаў пройдзе ў Мінску з 16 па 22 красавіка. Але ён набывае новы статус. З сёлетняга года конкурс будзе насіць імя выдатнай беларускай спявачкі, народнай артысткі СССР Л. Александроўскай.

У конкурсе прымуць удзел маладыя вакалісты з Мінска, Гродна, Гомеля. Сярод іх студэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і Мінскага музычнага вучылішча, салісты Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР, Беларускай дзяржаўнай і Гомельскай абласной філармоній, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Шырмы і іншыя.

Праграма конкурсу, які пройдзе ў тры туры, уключае сачыненні розных жанраў—класічныя і сучасныя оперныя арыі, абавязковае выкананне беларускіх рамансаў, народных песень, арый з опер беларускіх кампазітараў і г. д.

Пераможца будзе ўзнагароджаны прызам імя Л. Александроўскай. Акрамя таго, устаноўлены прызы за лепшае выкананне твораў па жанрах.

У дзень пачатку конкурсу, 16 красавіка, адбудзецца цырымонія адкрыцця помніка Л. Александроўскай.

**В. НІКАЛАЕЎ.**

## ЗАГУЧАЦЬ ФУГІ І ХАРАЛЫ

На цэнтральнай плошчы Вілейкі цяпер, здаецца, стала святлей у любое надвор'е — ад медзянога водсвету абноўленых вежаў, рознакаляровых вітражоў старога касцёла, рэстаўрацыю якога заканчваюць работнікі спецыялізаваных майстэрань «Белрэстаўрацыя».

На будаўніча-мантажных работах асвоена больш як 300 тысяч рублёў. Такая актыўнасць тлумачыцца агульнай зацікаўленасцю: помнік архітэктуры пачатку нашага стагоддзя стане культурным цэнтрам Вілейшчыны. Тут будзе канцэртна-выставачная зала, другая пасля полацкага Сафійскага сабора ўстанова такога тыпу. Яе задача — эстэтычнае выхаванне людзей, стварэнне ўмоў для духоўнага яднання прыхільнікаў мастацтва.

Тут імкнуцца стварыць сістэму эстэтычнага выхавання людзей розных узростаў і мастацкіх густаў. Гэтаму будзе спрыяць цесны духоўны кантакт гледача з выканаўцамі: не ўзмоцнены мікрафонам голас спевака або дэкламатара, магчымасць бачыць у вачах артыста радасць, сум, натхненне — усю гаму агульначалавечых пачуццяў.

Цяпер ідуць перагаворы з чэхаславацкімі сябрамі аб устаноўцы ў райцэнтры аргана.

*ІНТЭРВ'Ю З КАМПЕТЭНТНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ*

# МЕРА ЎСЯГО—ЧАЛАВЕК

**Са старшынёй Саюза мастакоў БССР, народным мастаком БССР, Уладзімірам СТАЛЬМАШОНКАМ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

*— Некалькі тыдняў назад мне давялося прысутнічаць на аўкцыёне рэспубліканскай маладзёжнай мастацкай выстаўкі, які праводзіўся ў Мінску. Аднак першы тур яго прайшоў «упустую»: не была набыта ні адна з прапанаваных жывапісных карцін. Здаецца, незадаволены і мастакі, і патэнцыяльныя пакупнікі. У чым тут справа?*

— Хачу ўдакладніць, што на аўкцыёне ўсё ж тое-сёе з невялікіх па памеру жывапісных пейзажаў і нацюрмортаў было набыта пакупнікамі. А ў першым туры на буйнамаштабныя палотны, сапраўды, ніхто не спакусіўся. Уласна кажучы, яны і прызначаны толькі для грамадскага інтэр'ера. Мы разлічвалі, што іх набудуць пакупнікі ад прадпрыемстваў. Аднак гэта ўжо пралікі тых, хто арганізоўваў мерапрыемства. Тым не менш тут ёсць над чым падумаць не толькі ім. Сам аўкцыён стаў чымсьці накшталт лакмусавай паперкі, якая праявіла ўсе нашы няпростыя і неадназначныя праблемы.

Скажам, людзей мог адпужаць кошт палатна: 300, 500, 700 рублёў. Сапраўды, не танна. Але ж усе работы прадаваліся тут удвая танней таго кошту, за які твор у аўтара набыло б Міністэрства культуры, якое, вы ведаеце, атрымлівае да[illegible]ыю ад дзяржавы, ці Мастацкі [illegible]нд Саюза мастакоў БССР. Такім [illegible]ынам, багатыя мецэнаты—Міністэрства і Саюз—куплялі ў мастакоў работы (дадам, не заўсёды вартыя таго), і нярэдка за немалыя грошы. У [illegible]іку ў дырэкцыі выставак Мастацка[illegible]онду рэспублікі пыліцца больш [illegible] дзесяць тысяч твораў на суму тры мільёны рублёў. Гэта, як кажуць, «незапатрабаванае» мастацтва, на якое патрачаны народныя грошы... Сам па сабе такі факт, як і паўпустыя залы музеяў мастацтва, карцінных галерэй, прымушае пра многае задумацца. Вось вы заўважылі, што вынікамі аўкцыёна былі пакрыўджаны некаторыя мастакі. Але ж чаго крыўдзіцца? Тут маладыя аўтары, я думаю, упершыню сутыкнуліся з інтарэсамі рынку, з рэальнасцямі, якія, па сутнасці, і павінны выяўляць сапраўдны кошт таго ці іншага твора.

Аднак сёння (і гэта сімптаматычна) вялікія грошы за твор мастацтва мала хто заплаціць. Хутчэй набудзе яшчэ адзін дыван, залаты пярсцёнак... Разважаючы тут пра вытокі гэтай сітуацыі, я не хачу «спісваць» усё на абывацельскі густ і мяшчанства публікі. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што многія, вельмі многія нашы сучаснікі, увогуле неблагія спецыялісты ў самых розных галінах, надта далёкія ад мастацтва, слаба, калі не сказаць зусім, не арыентуюцца ў выяўленчым мастацтве.

*— Чаму склалася такая сітуацыя?*

— Ужо не адно пакаленне дзяцей выходзіць у свет, не маючы ўяўлення пра гісторыю сусветнага і нацыянальнага мастацтва. Па сутнасці, яны не атрымліваюць эстэтычнага выхавання ні ў дзіцячым садзіку ні ў школе. А ўрокі малявання ці спеваў ніяк не могуць запоўніць гэты прабел. Вось адна прычына. Іх яшчэ нямала.

Не трэба закрываць вочы і на тое, у якое становішча трапіла само выяўленчае мастацтва. З аднаго боку — матэрыяльная падтрымка дзяржавы. А з другога — рэгламентаванасць, дагматызм, нецярпімасць.

На шматлікіх выстаўках з'яўляецца безліч карцін на ўжо апрабаваную, так званую «вытворчую» тэму з «прылізанымі» сюжэтамі і «правільнымі» героямі. А тым часам мілыя сэрцу чыноўніка-бюракрата вернісажы ўсё радзей і радзей наведваюць людзі.

*— Ці не пратэстам супраць казёншчыны, адкрытай халтуры, кан'юнктуры ў мастацтве стала дзейнасць так званых нефармальных аб'яднанняў мастакоў, такіх, як «Галіна», «Форма»?*

— Сапраўды, арганізаваныя летась удзельнікамі гэтых аб'яднанняў выстаўкі былі вельмі папулярныя ў Мінску. Іх з цікавасцю хадзілі глядзець і моладзь, і людзі старэйшыя. Тут можна было ўбачыць тое, што звычайна не прадстаўлялася ў афіцыйных экспазіцыях, на што доўгія гады існавала «табу». Маладзёжныя нефармальныя выстаўкі былі пранізаны авангардысцкім духам. Зразумела, негатыўныя з'явы ў развіцці нашага мастацтва не маглі абмінуць свядомасць моладзі. І ў сваіх работах пачынаючыя аўтары імкнуцца разабрацца ў сутнасці гэтых з'яў, выпрацаваць новую выяўленчую мову, супрацьпаставіць сябе прафесійнаму мастацтву гадоў застою.

Хачу сказаць, што ў неафіцыйных суполках самыя розныя людзі — і сапраўдныя шукальнікі ісціны, і авантурысты, і дылетанты. Таму на іх выстаўках можна было ўбачыць і адпаведныя работы. Напрыклад, кампазіцыі з усялякага ламачча, з муляжамі людзей і жывёл, з бытавой тэхнікай... З мастацкага боку ўспрымаць іх можна як варыяцыі рускага авангарда 20-х гадоў і заходняга 50-х — 60-х. Але былі і вельмі арыгінальныя творы мясцовых фармалістаў, мадэрністаў, чые пошукі, мне так бачыцца, павінны даць плён.

*— Уладзімір Іванавіч, а што новага, каштоўнага ўнеслі ў беларускае мастацтва маладыя «бунтаўшчыкі»?*

— Як старшыня Саюза, я вітаю і падтрымліваю «бунтарскае» мастацтва ў агульным працэсе перабудовы савецкага грамадства, але лічу, што пра дасягненні «нефармалаў» пакуль гаварыць рана. Дарэчы, пра іх выстаўкі шырока пісалася ў нашай прэсе, вядучыя мастацтвазнаўцы аналізавалі работы, удзельнічалі ў абмеркаваннях. Адмоўнай у «нефармалаў» мне здаецца іх нецярпімасць, якая прымушае часта ісці на канфрантацыю з Саюзам мастакоў. Нельга, на мой погляд, не згадзіцца з мастацтвазнаўцам Кантарам, які піша, што нефармальнае «мастацтва цураецца глыбіні, сацыяльнай праблематыкі, а галоўнае, яно адарвана ад надзённых задач, якія стаяць перад кожным сур'ёзным пластычным эксперыментам,—ад выхаду ў жыццё». Таму тут пакуль няма падстаў гаварыць аб нейкім якасным прагрэсе мастацтва.

Тым не менш я ўсё ж лічу, што «бунтары», якія так гучна заявілі пра сябе ў апошнія два-тры гады, актывізавалі, ажывілі мастацкае жыццё рэспублікі.

*— Гаворачы пра нефармальныя суполкі маладых мастакоў і характарызуючы іх адносіны з Саюзам, вы скарысталі слова «канфрантацыя». Своеасаблівая супярэчнасць паміж маладым пакаленнем і старэйшым, відаць, існавала заўсёды. Гэта адна з агульначалавечых праблем. Аднак у самім Саюзе і сапраўды даволі мала маладых... Якая палітыка ў адносінах да моладзі будзе весціся?*

— Я б не сказаў, што наш Саюз зусім ужо аброс імхом. Хаця пэўная тэндэнцыя да гэтага ў апошнія гады намецілася. Так, ён пастарэў. Праўда, дзеля аб'ектыўнасці я павінен сказаць, што пры Саюзе даволі даўно працуе маладзёжнае аб'яднанне — патэнцыяльнае папаўненне. І тым не менш амаладжэнне ішло марудна. Па кімсьці даўно напісаных законах студэнты, як правіла, не маглі браць удзел у выстаўках, даволі цяжка было несаюзнай моладзі — гэта значыць, не членам Саюза мастакоў, наладзіць і нейкую групавую выстаўку. Словам, праявіць сябе — мінімум магчымасцей. Атрымлівалася, што да сталых членаў Саюза